ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 78 (1715) | Пятніца, 28 верасня 1962 года | Цана 4 кап.



Васіль Косцік, перадавы машыніст дызельэлектрычнага крана на Крычаўскім цэментна-шыферным камбінаце. Фота Ч. Мезіна. (БЕЛТА).

У СНЕЖНІ
Дэкада самадзейнага мастацтва

# НЕ З ТОЙ МЕРКАЙ

Г. ЗАГАРОДНІ

НАПЭЎНА, няма такога дня, каб у рэспубліканскі і абласны дамы народнай творчасці, ва Ўпраўленне па справах мастацтва не прыходзілі пісьмы ад кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці, у якіх яны пішуць амаль заўсёды аб адным і тым жа: «Прышліце, калі ласка, новыя беларускія песні і аднаактовыя п'есы, невялікія партытуры для цымбальнага аркестра!» Вось, напрыклад, зусім нядаўна Ўпраўленне па справах мастацтва атрымала пісьмо ад дырэктара Целяханскага Дома культуры тав. Аляксандрава, які ад імя ўдзельнікаў раённай самадзейнасці просіць выслаць дзве—тры песні аб калгаснай працы для ўключэння іх у музычную праграму «Як у нас на Палессі».

Патрэбнасць у свежым, сучасным нацыянальным рэпертуары была і раней вялікая. Але цяпер, з набліжэннем другой Дэкады самадзейнага мастацтва Беларусі, попыт на такі рэпертуар асабліва ўзрос і пачаў адчувацца найбольш востра. Знайсці ж у раённым цэнтры, ды нават і ў некаторых абласных гарадах што-небудзь з музычных навінак бывае проста немагчыма. Тое, што выдаецца Белдзяржвыдавецтвам, з харавой і інструментальнай літаратуры ў дапамогу самадзейнасці (а выдаецца пакуль што мала і паранейшаму мізэрнымі тыражамі), «асядае», як правіла, у Мінску, а на перыферыі ў продаж амаль не паступае. Аб гэтым, у прыватнасці, піша ў нашу газету і мастацкі кіраўнік Хойніцкага РДК А. Бондар.

Становішча з рэпертуарам у нас сапраўды склалася дрэннае. Работнікі дамоў народнай творчасці папракаюць беларускіх кампазітараў і драматургаў за тое, што яны, маўляў, пачалі менш удзяляць увагі ў сваёй творчасці малым жанрам і формам. А творцы музыкі і мастацкага слова ў сваю чаргу крыўдуюць на выдавецтва, быццам яно падыходзіць да іх з празмерна завышанымі патрабаваннямі, доўга не друкуючы песні і аднаактовыя п'есы. Паспрабуй — разбярыся: хто тут мае рацыю, а хто вінаваты.

Безумоўна, выдавецтва не можа пахваліцца асаблівымі дасягненнямі ў выпуску хоць бы музычнай літаратуры: яе выдаецца ўсё яшчэ мала па назвах і, паўтараю, не ў той колькасці экземпляраў, у якой неабходна, каб поўнасцю задаволіць запатрабаванні велізарнай арміі ўдзельнікаў самадзейнасці рэспублікі. Так, другі па ліку зборнік «Песні самадзейных кампазітараў», амаль чатыры гады праляжаўшы ў Дзяржаўным выдавецтве БССР, толькі сёлета быў выпушчаны ў свет. Аднак, калі сур'ёзна разбірацца ў прычынах адсутнасці рэпертуару, трэба ўсё ж пачынаць з тых, хто яго стварае. Было б **што** друкаваць, а **дзе** і **як** друкаваць — можна хутчэй вырашыць.

ВОСЬ УЖО на працягу некалькіх год, з месяца ў месяц, разам з чарговым нумарам часопіса «Маладосць», рассылаецца падпісчыкам прызначаны для мастацкай самадзейнасці бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...» Гэта — адзінае пакуль што ў рэспубліцы пастаяннае друкаванае выданне, якое па характару і накіраванасці публікуемых матэрыялаў нікольki не ўступае любому рэпертуарнаму зборніку. Паглядзім жа, чым запаўняюцца яго старонкі і што карыснага можа ўзяць для сябе хармайстар аматарскага хору, рэжысёр драматычнага гуртка.

Калі знаёмішся з камплектам дадаткаў за мінулы і гэты год, ужо з самага пачатку ўзнікае пачуццё расчаравання. Паспрабуйце знайсці тут новую беларускую песню ці беларускую аднаактовую п'есу на надзённую сучасную тэму — не так гэта проста! Доўга давядзецца шукаць, пакуль што-небудзь знойдзеш вартае ўвагі. З рэпертуарных матэрыялаў у дапамогу тэатральнай самадзейнасці ў асноўным друкуюцца аднаактоўкі, драматычныя сцэнкі і інтэрмедыі ў перакладзе з рускай і ўкраінскай мовы, якія, да таго ж, не заўсёды вызначаюцца глыбінёй і самастойнасцю задумы. А дзе ж арыгінальныя творы нашых драматургаў? Яны сустракаюцца на старонках дадатку вельмі рэдка. Амаль за два гады тут былі апублікаваны: толькі п'еска ў адной дзеі «Маці» А. Міклуша, аднаактоўкі «Безвыходнае становішча» М. Алтухова, «Цяжкі выпадак» Р. Кобеца і сцэнічны жарт Я. Купалы «Прымакі». Прама скажам — небагаты выбар беларускага драматычнага рэпертуару! Які, напрыклад, быў сэнс змяшчаць у дадатку даволі павярхоўную, невысокай якасці камедыю А. Сафронава «Кухарка замужам» (пераклад Ул. Юрэвіча)? Ці не лепш было б на той самай папяровай плошчы надрукаваць якую-небудзь новую многаактовую п'есу беларускага аўтара? Тым больш, што такія п'есы цяпер ёсць, і іх з нецярпеннем чакаюць калектывы народных тэатраў і самадзейныя гурткі.

Не зусім правільна і не з той творчай меркай падыходзіць рэдакцыя часопіса і да адбору музычных матэрыялаў для свайго дадатку. Па нашых падліках, са змешчаных летась 35 песень — толькі 8 належаць пяру беларускіх кампазітараў. Астатнія — гэта суцэльныя перадрукі, перавыданні з розных першакрыніц, шырока вядомых, даўно абнародаваных, «запетых» твораў савецкіх аўтараў. Па зместу і характару музычных вобразаў, па сваёй меладычнай структуры большасць гэтых харавых і сольных твораў вельмі аднатыпныя, сумныя, падобныя, як дзве кроплі вады, адна да адной «Вот кто-то с горочки спустился», «Ты не стой, не стой у окон моих», «Не идешь ты ко мне на свидание», «Называют меня некрасивою» і іншыя — па адных гэтых назвах ужо не цяжка вызначыць, аб чым расказваецца ў той ці іншай песні, якая яе ідэйна-тэматычная накіраванасць.

То дзяўчына сумуе па заўчасна страчаным каханні да яе з боку блізкага сябра, ці яна ўпотай кахае хлопца, душэўна пакутуе, сохне па ім, але нікому не адважваецца сказаць аб гэтым, то маладая закаханая, раўнуючы, ніяк не дачакаецца спаткання са сваім нарачоным. Такі, прыкладна, няпоўны «пералік» тэм і сюжэтных ліній у сённяшняй песеннай лірыцы, што літаральна запаланіла самадзейную сцэну, выцесніўшы нямала яркага, жыццярадаснага, прыўзнятага. І некаторай частцы нашай публікі падабаюцца гэтыя маркотна-меланхалічныя, хоць і з прыемнай мелодыяй, песні, у якіх гучыць шэранькі сум слабага духам чалавека, знерваванага няўдалым каханнем, спатканнем, якое не адбылося, і г. д. Мала таго, што Беларускае радыё, часта ідучы на повадзе ў непатрабавальных слухачоў, перадае ў эфір розныя сентыментальна-слязлівыя песні, дык, аказваецца, і друк не супраць іх папулярызацыі. Але ж гэта не той рэпертуар, які нам патрэбен сёння. І таму даводзіцца шкадаваць, што рэдакцыя «Маладосці» так ахвотна прадаставіла яму старонкі дадатку.

У прынцыпе не можа быць пярэчанняў супраць публікацыі ў дадатку масавых савецкіх песень вялікага героіка-патрыятычнага гучання ці светлай пранікнёнай лірыкі, пазбаўленай сентыментальна-слязлівых інтанацый. Але гэта павінны быць песні абавязкова новыя, дагэтуль невядомыя большасці аматараў мастацтва. Бо навошта друкаваць тое, што ўжо дзесьці надрукавана раней, трансліравалася па радыё, што літаральна ва ўсіх на слыху? Так, наўрад ці варта было рабіць своеасаблівы «дубляж» запісанай на грампласцінкі «Ласкавай песні» В. Мурадэлі, якая да таго ж мала чым адрозніваецца ад звычайных салонных рамансаў. Не зусім зразумела мэта «перавыдання» песень «Геолагі» А. Пахмутавай, «Камсамольцы 20-га года» О. Фельцмана — хіба толькі таму, што яны незвычайна папулярныя ў народзе!

Дарэчы, такі ж грэх часткова ўласцівы і добра афармленаму першаму нумару «Рэпертуарнага лістка», выпушчанага месяц назад рэспубліканскім Домам народнай творчасці. Яго работнікі вырашылі ашчасліваць самадзейных артыстаў, апублікаваўшы, побач з вельмі каштоўнымі свежымі матэрыяламі («Маладзёжная беларуская полька» ў запісу балетмайстра С. Грабеншчыкава, патрыятычны хор «Пры камунізме нам жыць!» І. Кузняцова на словы А. Дзеружынскага), знаёмыя амаль ва ўсіх кутках свету «Хотят ли русские войны...» і «Бухенвальдскі набат». Нам скажуць, што гэтыя творы змешчаны ў «Лістку», галоўным чынам, з-за распісаных па галасах нот, якія не так проста бывае дастаць кіраўніку хору. І тым не менш, ад такой раскошы лёгка было адмовіцца: урэшце рэшт і па спеўніку можна развучыць «Хотят ли русские войны...», а на месцы партытуры гэтага твора няхай бы лепш стаяла новая песня беларускага кампазітара.

Вяртаючыся да ранейшай размовы аб дадатку «А гармонік грае, грае...», хочацца сказаць, што рэдакцыя «Маладосці» не павінна спадзявацца толькі на тое, што выпадкова прыплыве з набытых музычных фондаў рэспубліканскага Дома народнай творчасці. На гэтым доўга не пражывеш, як зноў давядзецца звярнуцца да «перадрукаў». Трэба, відаць, наладзіць самыя цесныя кантакты з беларускімі кампазітарамі, часцей іх непакоіць, пытацца песенных навінак.

Праўда, параўноўваючы леташнія нумары дадатку з сёлетнімі, заўважаеш у іх значна больш арыгінальных беларускіх твораў як прафесіянальных, так і самадзейных аўтараў. І што прыкметна — у дадатку да вераснёўскага нумара «Маладосці» змешчана нават невялікая музычная п'еса — «Беларуская полька» Р. Пукста ў пералажэнні для квінтэта народных інструментаў, па-майстэрску зробленым К. Паплаўскім. За такое пачынанне нельга не пахваліць. Бо самадзейныя народныя аркестры і ансамблі літаральна задыхаюцца ад нястачы новых канцэртных нумароў. І калі ў часопісным дадатку і ў далейшым будуць з'яўляцца падобныя матэрыялы ў дапамогу музыкантам-аматарам — гэтым мы зробім ім значную паслугу.

ТРАДЫЦЫІ ёсць традыцыі. Як і ў дні падрыхтоўкі да першай Дэкады самадзейнага мастацтва (1958 год), калі ў абласцях рэспублікі і ў Мінску быў наладжан выпуск розных рэпертуарных «Лісткоў», невялікіх па аб'ёму песенных зборнікаў і літаратурна-музычных старонак у газетах, — сёлета таксама шмат чаго робіцца ў гэтым напрамку. Мы ўжо расказалі пра дадатак да часопіса «Маладосць», закранулі і першы нумар «Рэпертуарнага лістка» РДНТ. Днямі выйдзе другі нумар яго, у якім яшчэ больш змястоўных і разнастайных па жанрах беларускіх твораў.

Абласныя дамы народнай творчасці, у прыватнасці, Мінскі, Гомельскі, таксама не хочуць стаяць у баку ад рэпертуарных спраў, іх кіраўнікоў таксама хвалюе лёс будучых канцэртных праграм артыстаў-аматараў.

Мінскі Дом народнай творчасці, напрыклад, знайшоў вельмі характэрную форму прапаганды новага рэпертуару — выпусціў друкарскім спосабам і разаслаў па калектывах каля дзесяці харавых песень у выглядзе асобных лістовак. Праўда, на наш погляд, падабраны яны не зусім удала. Навошта, скажам, спатрэбілася ўключаць у гэтую рэкамендацыйную «серыю» стары твор І. Дунаеўскага «С песней по жизни», які не характарызуе з лепшых бакоў песенную творчасць папулярнага савецкага кампазітара? Відаць, ён і сам не надаваў яму асаблівага значэння. Акрамя таго, зробленая маскоўскім дырыжорам І. Маловым апрацоўка гэтага твора для хору ярчэй выявіла адсутнасць у ім меладычнай прывабнасці. Дарэчы, той жа І. Малоў выступае і як самастойны аўтар рэкамендаванай да выканання песні «Земля родная», ад якой павявае нейкім «акадэмізмам», «сухасцю». Гэта самая радавая, цьмяная па мелодыцы песня, якіх у нас пішацца мноства. Іншая справа — хор Гранкіна «Комсомольское сердце, стучи»: ён адразу звяртае на сябе ўвагу напеўнасцю, яркай музычнай вобразнасцю, у ім чуецца біццё задорных маладых сэрцаў, іх велізарная любоў да жыцця. На жаль, такіх добрых па настрою і музыцы песень у «серыі» — нямнога. Але самае дзіўнае, што работнікі Дома народнай творчасці забыліся ўключыць у яе хоць бы адну беларускую песню.

Не меншых прэтэнзій заслугоўвае і выпушчаны Гомельскім Домам народнай творчасці «Рэпертуарны лісток». Мяркуючы па матэрыялах песеннага і размоўнага жанра, якія ў ім змешчаны, яны, відаць, падбіраліся паспешліва. Інакш, як можна разглядаць той факт, што ў «Лісток» не трапіў ні адзін твор беларускіх паэтаў. Бо нельга ж, напрыклад, аднесці да ўзораў сапраўднай паэзіі апублікаваныя вершы М. Васілевіцкага «Над шумлівым Сожам», вельмі банальныя за зместу, з налётам сентыментальнасці:

Хораша вясною
ў далячынь ісці,
Хораша вясною
шчасцейка знайсці.
Гэта шчасце светлае
ў вачах прыгожых
Можа сёння стрэнецца
над шумлівым Сожам.
. . . . . . . . . . .
Раптам голас чую: «Вас
даўно шукаю».
Гэта шэпча хваля, шэпча:
«Я кахаю».
Ой, вясна-красуня,
дай цябе абняць;
Весела вясною над ракой
гуляць.

Той жа Васілевіцкі надрукаваўся на апошняй, чацвёртай, старонцы «Лістка», але ўжо як аўтар рускага тэксту вальса «Вячэрні Гомель» (музыка І. Пузырова), у аснове мелодыі якога ляжаць меладраматычны надрыў і слязлівыя інтанацыі. Не далёка ад музыкі адышоў і літаратурны тэкст. Ён не вызначаецца мастацкай вобразнасцю і багаццем паэтычнай думкі.

Шумит проспект, идем ты и я,
Ласково ветер поет.
Как мне приятна улыбка твоя,
Город родной мой цветет.

Нанізаныя адзін на другі, бяссэнсавыя радкі тэксту, не звязаныя паміж сабой паэтычнай задумай, не даюць ніякага ўяўлення аб прыгажосці сёняшняга Гомеля.

Наіўна гучыць малазмястоўная інтэрмедыя «Канцэрт пачынаецца», якая звычайна чытаецца перад заслонай для таго, каб даць магчымасць удзельнікам самадзейнасці падрыхтавацца перад выхадам на сцэну. Многія літаратурныя матэрыялы зроблены безгустоўна, непісьменна і іх не варта было ўключаць у «Лісток».

Падвёў густ складальнікаў і пры выбары музычнага рэпертуару. За выключэннем адной-дзвюх песень, усе астатнія падабраліся выключна лірычныя, аднастайныя па каларыту і настрою. Па незразумелых для нас прычынах — ці зусім выпадкова, ці па невуцтву метадыстаў АДНТ — беларускі прафесіянальны кампазітар Ю. Семяняка аказаўся залічаным да групы музыкантаў-аматараў вобласці: запар тры яго песні «Камышынка», «Не глядзі на другіх» і «Дзявочая лірычная» змешчаны ў «Лістку» пад рубрыкай «Старонка самадзейных аўтараў Гомельшчыны».

І яшчэ адна заўвага. Усе песні — сольныя і харавыя — даюцца ў «Лістку» без суправаджэння. З гэтым абсалютна нельга згадзіцца, супраць гэтага трэба змагацца. Бо, друкуючы адну голую мелодыю ў адрыве ад акампанементу, мы заведама прадастаўляем права любому музыканту падбіраць акампанемент на свой уласны густ, які часам ідзе ўразрэз з аўтарскай задумай.

ВІДАЦЬ, не кожнаму Дому народнай творчасці пад сілу выдаваць рэпертуар у дапамогу мастацкай самадзейнасці. Тут патрабуецца шмат намаганняў і старання. Хутчэй за ўсё гэта справа рэспубліканскага Дома народнай творчасці, які мае спецыяльныя сродкі для набыцця ад нашых кампазітараў і драматургаў новых твораў і можа заўсёды прыцягнуць да складання і рэдагавання рэпертуарных матэрыялаў кваліфікаваных спецыялістаў. Нам здаецца, што «Рэпертуарны лісток» РДНТ, які зараз выпускаецца насустрач дэкадзе, можа з часам перарасці ў паўнацэнны змястоўны «Рэпертуарны зборнік» і стаць добрым дапаможнікам у рабоце кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці.

## ЛЕПШАЯ Ў РАЁНЕ

Любішчыцкая сельская бібліятэка Івацэвіцкага раёна па праву лічыцца лепшай ў раёне. Яе кнігі чытаюць у кожнай калгаснай сям'і.

28 кнiганош кожныя 10 дзён са звязкамі кніг і часопісаў адпраўляюцца ў дамы хлебаробаў, праводзяць абмен літаратуры, прымаюць ад чытачоў заяўкі. Асабліва добрымі прапагандыстамі літаратуры зарэкамендавалі сябе камуністы Е. Малаш, Я. Дрэма, камсамолкі О. Макар, Е. Казак і многія іншыя.

Бібліятэчныя актывісты праводзяць гутаркі аб навінках мастацкай і сельскагаспадарчай літаратуры, удзельнічаюць у афармленні нагляднай агітацыі. У прыватнасці, яны аформілі кніжныя выстаўкі «Ажыццявім рашэнні сакавіцкага Пленума ЦК КПСС», «Прачытайце гэтыя кнігі».

Бібліятэка шырока выкарыстоўвае разнастайныя формы масавай работы. У ёй адбыліся канферэнцыі чытачоў на тэмы: «Чалавек будучыні выхоўваецца сёння», «Калгас — школа камунізма», «Больш поўна і эканамічна выкарыстоўваць тэхніку» і іншыя.

Любішчыцкая бібліятэка выдала сваім чытачам з пачатку года больш чым 12 тысяч кніг. Яе вопыт абагульнен метадычным аддзелам Брэсцкай абласной бібліятэкі імя Горкага.

(БЕЛТА).

## ФІЛІЯЛ МУЗЫЧНАЙ ШКОЛЫ

Калектыў Пінскай музычнай школы шэфствуе над калгасам імя Калініна, што знаходзіцца ў вёсцы Сошна, у дваццаці кіламетрах ад горада. Выкладчыкі і вучні школы памаглі арганізаваць драматычны гурток у гэтым калгасе і часта разам з удзельнікамі самадзейнасці даюць канцэрты.

Пасля аднаго з такіх канцэртаў да дырэктара музычнай школы А. Паслаўскага падышлі некалькі калгаснікаў і спыталі:

— Многія з нашых дзяцей хочуць вучыцца музыцы. Памажыце нам.

Дырэктар музычнай школы абяцаў параіцца са сваім калектывам.

І вось неўзабаве педагогі пачалі на грамадскіх асновах вучыць 12 дзяцей калгаснікаў ігры на баяне і акардэоне. Так у калгасе ўзнік філіял музычнай школы.

М. БАГДАНАЎ.

Прадукцыя Маладзечанскай фабрыкі мастацкіх вырабаў «Народная творчасць» добра вядома не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Адна з лепшых вышывальшчыц фабрыкі — камсамолка Зоя Шыбуня. Фотакарэспандэнт БЕЛТА П. Наватараў спаткаў Зою Шыбуню (на здымку — злева) у час яе гутаркі з майстрам Рымай Бурай.

## СПЕКТАКЛІ, КАНЦЭРТЫ

✦ Па запрашэнню свердлаўчан на гастролі ў Свярдлоўскую вобласць выехаў Беларускі дзяржаўны народны аркестр. Сучасныя і старадаўнія беларускія песні пачуюць жыхары Ніжняга Тагіла, Першаўральска, Краснатур'інска, Свярдлоўска.

✦ Першы выязны спектакль у гэтым тэатральным сезоне калектыў Рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага зрабіў у г. Чэрвені. Жыхары раённага цэнтра з цікавасцю прагледзелі спектакль «Адзін год». Днямі гэтую ж пастаноўку ўбачаць працоўныя Барысава, Мар'інай Горкі.

✦ Раённы цэнтр Крычаў наведалі артысты Жытомірскага абласнога драматычнага тэатра. Неўзабаве пасля гэтага майстры ўкраінскага мастацтва пабывалі з гастролямі ў Клімавічах, Касцюкоўцы, Мсціславе, саўгасе «Быхаўскі». Там былі паказаны спектаклі «Світанне на Ганчароўцы», «Цыганка Аза», «Пакуль сонца ўзыдзе — раса вочы выесць». Днямі калектыў тэатра пачне гастролі ў Бабруйску.

✦ Спектаклем «Ленінградскі праспект» І. Штока адкрывае сезон гэтага года Гомельскі абласны драматычны тэатр. Калектыў артыстаў працуе над новымі спектаклямі — «Рамэо і Джульета» і «Дзень нараджэння Тэрэзы».

✦ Спектакль «Лявоніха на арбіце» паказалі артысты Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы калгаснікам сельгасарцелі «Зорка» Барысаўскага раёна. У спектаклі прынялі ўдзел артысты Ул. Дзядзюшка, В. Краўцоў, Г. Макарава, З. Стома і інш.

## Для кінагледачоў

Кінатэатр «Зорка» разам з бібліятэкай імя Крупскай і домакіраўніцтвам № 6 Савецкага раёна г. Мінска арганізаваў тэматычныя кіналекцыйныя вечары «Іх імёны носяць вуліцы».

У клубе Інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, дзе будуць праходзіць вечары, запланаваны лекцыі «Якуб Колас — гордасць беларускага народа», «К. Чорны — пісьменнік-гуманіст, барацьбіт за светлае, прыгожае ў чалавеку», «М. Г. Чарнышэўскі — барацьбіт за свабоду і шчасце народа» і інш.

## ВЕЧАР ПАЭЗІІ

У клубе Клімавіцкага зааветтэхнікума адбыўся вечар беларускай паэзіі, прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння беларускага паэта Максіма Танка.

Даклад аб жыцці і творчасці юбіляра зрабіла настаўніца 2-й сярэдняй школы тав. Цыганкова. Вершы паэта прачыталі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці.

Затым з чытаннем сваіх вершаў выступіў паэт Аляксей Пысін. На вечары таксама выступілі маладыя паэты

Н. КУРЭПІН,

# ВІЦЕБСКІЯ НАВІНЫ

### ПЛАКАТ АБ ГЕРОЯХ ПРАЦЫ

Віцебскі абласны краязнаўчы музей выпусціў тыражом у дзве тысячы экземпляраў плакат «Героі Сацыялістычнай Працы Віцебшчыны».

У суровыя дні Вялікай Айчыннай вайны высокае званне героя было прысвоена начальніку Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі М. Макараву і майстру пункта тэхнічнага агляду вагонаў станцыі Громы А. Глебаву. Не згасла з гадамі працоўная слава паважаных чыгуначнікаў. Абодва і зараз з'яўляюцца ўмелымі камандзірамі вытворчасці.

Залатыя зоркі ярка гараць на грудзях славутых ільнаводаў вобласці І. Глядчанка, Р. Пятроўскай, А. Гарэцкай, Я. Ляснічай, В. Кароткай. Пераймаючы вопыт перадавікоў, працаўнікі палёў Віцебшчыны з году ў год павялічваюць ураджайнасць ільну.

Вышэйшай узнагароды удастоены старшыні калгасаў М. Лытысаў і Л. Пугаўка, даярка В. Галубцова, свінарка М. Ігнатава, механізатары І. Барадаўка і С. Юргель.

«Раўняйцеся на маякі, на людзей высокага абавязку!» — заклікае плакат.

### МАСТАЦТВА ФОТАМАЙСТРОЎ

У сакавіку пры абласным Доме народнай творчасці быў створан клуб фотамайстроў. А днямі віцебскія аматары фотамастацтва выступілі перад працоўнымі з першай справаздачнай выстаўкай. Выстаўка называецца «Сямігодка ў дзеянні». На ёй прадстаўлена каля 300 работ.

Сярод іх — каляровыя здымкі дубровенца Н. Чакунова. Яны добрыя не толькі па колеры, але і па кадры. У работах Чакунова «Уборка ўраджаю», «Лясная паляна», «Пяюць жаваранкі», «Зіма», «Зайчаняты» колер выступае як важны кампанент апавядання.

Полацкі аматар А. Васечка прадставіў на выстаўку выдатны здымак «Устаноўка крэкінга», віцяблянін В. Бураўкін — вельмі цікавы па кампазіцыі здымак «Малышы на спортпляцоўцы». Экспануюцца таксама работы П. Папова, П. Азарчанкі, А. Чарнабрыўцава, братоў Конікавых.

### ХОР ХЛОПЧЫКАЎ

У Віцебску аб'яўлен дадатковы набор у хор хлопчыкаў. Хор гэты вось ужо другі год існуе на грамадскіх асновах пры музычным вучылішчы.

Звыш 400 дзяцей праслухалі выкладчыкі, раней чым быў адабраны склад хору. Цяпер у ім 45 удзельнікаў. Колькасць іх мяркуецца давесці да 60. Дзеці навучаюцца музычнай грамаце, ігры на любым з інструментаў. Заняткі вядуцца па вечарах два разы на тыдзень.

Шмат працы аддаюць самадзейнаму калектыву выкладчык дырыжорска-харавых дысцыплін Л. Мануйка і студэнткі выпускнога курса А. Вінакурава і Н. Вішнякова.

### СВЯТА ЦЫРКАВОГА КАЛЕКТЫВУ

Год назад перасоўны калектыў Беларускага цырка падрыхтаваў першую сваю праграму. Прэм'ера адбылася ў Мінску. Затым артысты зрабілі гастрольную паездку па РСФСР, а ў красавіку зноў вярнуліся ў родную рэспубліку. Гомель, Бабруйск, Магілёў — ва ўсіх гарадах, дзе выступаў калектыў, прадстаўленні яго карысталіся нязменным поспехам. У Віцебску, куды артысты прыбылі пасля Магілёва, усе прадстаўленні ідуць з аншлагамі.

Артысты выступаюць не толькі пад купалам цырка, але і пад адкрытым небам. Так, вялікае прадстаўленне адбылося на двары фабрыкі «КІМ», некалькі паездак зроблена ў калгасы. Асабліва добра сустракаюць гледачы ілюзійныя нумары А. Шага, сілавога жанглёра Н. Неліповіча, дрэсіроўшчыка мядзведзяў А. Вірыцкага.

23 верасня віцябляне адзначылі першую гадавіну маладога цыркавога калектыву. Артыстам былі паднесены адрас, букеты кветак.

### У СВЕЦЕ ПАЭЗІІ І МУЗЫКІ

Вялікую масавую работу вядзе Віцебская абласная бібліятэка.

У першай палавіне верасня на Віцебшчыне гастраліраваў Станіслаўскі драматычны тэатр. Артыста гэтага тэатра І. Шаўчэнку бібліятэка прыцягнула для ўдзелу ў лекцыях-канцэртах, прысвечаных творчасці А. Пушкіна і Ул. Маякоўскага. Спачатку выступленні адбыліся ў чытальнай зале, потым у цэхах фабрык індывідуальнага пашыву адзення, мастацкіх вырабаў, рамонту абутку.

Цікавасць у наведвальнікаў выклікала лекцыя-канцэрт «Першы канцэрт для фартэпіяна з аркестрам» П. Чайкоўскага. Лекцыю прачытала член Таврыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў музыказнаўца А. Рыбакова. Твор геніяльнага кампазітара быў выкананы па грамзапісу. Наведвальнікі выказалі пажаданне часцей наладжваць такія канцэрты-лекцыі ў бібліятэцы.

Кожны тыдзень у чытальнай зале абнаўляюцца выставачныя стэнды. У жніўні была наладжана выстаўка твораў Я. Брыля, цяпер адкрыта выстаўка, прысвечаная творчасці М. Танка.

### КАНЦЭРТЫ Ў РАЁНАХ

Артысты Беларускага дзяржаўнага народнага ансамбля песні і танца знаходзяцца ў гастрольнай паездцы па гарадах і вёсках Віцебскай вобласці.

У Оршы на канцэртах у гарадскім Доме культуры і на ільнокамбінаце асаблівым поспехам карысталася песня кампазітара Ул. Алоўнікава «Аршанская старонка». У Полацку, на Нафтабудзе артысты выканаюць спецыяльна напісаныя для нафтабудаўцаў частушкі П. Броўкі.

Ансамбль ужо выступіў перад працоўнымі Дуброўна, Коханава, Талачына, Лёзна, на Белдрэсе у вёсках Зубава, Пішчалава. Гастролі працягнуцца да 7 кастрычніка.

### ВУЛІЦА КАСМАНАЎТАЎ

У Віцебску нямала месц, звязаных з гісторыяй вызваленчай барацьбы рускага і беларускага народаў, з рэвалюцыйнымі баямі, падзеямі Вялікай Айчыннай вайны. Спіс гістарычных назваў горада папоўніўся. У гонар групавога палёту Андрыяна Нікалаева і Паўла Паповіча выканком Віцебскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных назваў адну з вуліц вуліцаю Касманаўтаў.

(Наш спец. кар.).

# ТАК ПАЧЫНАЎСЯ ЗАПЕЎ

«...Спакойна і павольна, як у зачараваным сне, утуліўшыся ў балоты, нясе Прыпяць сухадоламу Дняпру сваю багатую даніну. Не спяшаецца яна выносіць дабро палескіх балот. А яго так многа, што ўсё роўна, спяшайся не спяшайся, а гэтай работы ёй хопіць на доўгія гады...»

Гэтыя цудоўныя радкі з класічнага твора беларускай літаратуры «Дрыгва» ведаюць напамяць і школьнік, і сталы чалавек.

Як жа ўзнікла ў вялікага песняра беларускага народа задума напісаць аповесць «Дрыгва»? Аб гэтым у музеі народнага паэта няма дакладных вестак. Існуе, напрыклад, меркаванне, што некалі адзін з удзельнікаў этнаграфічнай экспедыцыі, якая ў пачатку трыццатых гадоў пабывала на Палессі, расказаў Якубу Коласу аб сустрэчы з героем грамадзянскай вайны дзедам Талашом. Расказ гэты нібыта зацікавіў пісьменніка, і ён рашыў сам сустрэцца з Талашом...

Між тым, на Петрыкаўшчыне жывуць яшчэ людзі, якія добра памятаюць падрабязнасці першай сустрэчы народнага паэта Беларусі з героем свайго будучага твора.

У Конкавіцкай васьмігадовай школе працуе стары настаўнік Рыгор Барысавіч Аскерка. Чалавек гэты любіць беларускую літаратуру, многія раздзелы «Дрыгвы» ведае напамяць.

— У той час, як Якуб Колас упершыню прыязджаў на Петрыкаўшчыну, — успамінае Рыгор Барысавіч, — працаваў я ў зямельным аддзеле райвыканкома.

Неяк па справах выканкома давялося быць Рыгору Барысавічу ў Навасёлках — невялікай вёсачцы, што раскінулася над самай Прыпяццю. Жыў у Навасёлках дзед Талаш, які праславіўся ў час разгрому белапольскіх акупантаў у 1920 годзе. У 1927 годзе дзед Талаш за свае подзвігі быў узнагароджан ордэнам Чырвонага Сцяга.

У Навасёлкі Аскерка прыйшоў апоўдні. Васіля Ісакавіча Талаша ён сустрэў з венцярамі на беразе Прыпяці.

— Як, стары, улоў? — запытаўся ў яго Рыгор Барысавіч.

— Гэ, улоў, — затрос той бародкай. — Які ў чорта ўлоў! Так вось, некалькі акунёў ды лінькоў зайшло...

Якраз у тую хвіліну з парахода, што стаяў на прычале, сышоў каржакаваты, з удумлівымі чорнымі вачыма чалавек. Ён падышоў да дзеда Талаша і Аскеркі і пачаў прыслухоўвацца да іхняй размовы. Тое, што дзед прыбядняецца, зацікавіла чалавека. Ён пачаў распытваць аб тамашніх рыбных мясцінах, і Васіль Ісакавіч разгаварыўся. Ён успомніў сваё партызанства, калі вось па гэтых зарасніках, што цягнуцца паўз Прыпяць, глушыў панскіх «гіцляў», камандаваў атрадам баявых сялянскіх хлопцаў. Відаць, праезджага вельмі захапіла дзедава апавяданне. А расказваў Васіль Ісакавіч з дасціпным гумарам, часцяком устаўляў моцныя народныя слоўцы, трапныя прымаўкі...

Так адбылося першае знаёмства Якуба Коласа з героем будучага твора. Развіталіся яны з дзедам Талашом шчырымі сябрамі. Скупаваты па натуры, Васіль Ісакавіч расшчодрыўся і падарыў пісьменніку ўсю рыбу, што натрос з венцяроў.

— А пра далейшыя сустрэчы вам могуць расказаць і самі сыны дзеда Талаша, — гаворыць Рыгор Барысавіч. — Схадзіце ў Навасёлкі.

І вось мы з дырэктарам Конкавіцкай школы Іванам Івანавічам Усціновічам крочым бальшаком у Навасёлкі.

Мясціны тут прыгожыя. Паабапал дарогі строяцца высокія сосны, пахне чабаровым настоем. Пад куцымі сасёнкамі чырванеюць шыкозныя капелюшы мухамораў. Міжволі хвалюешся: недзе па гэтых сцежках некалі хадзіў дзед Талаш, іменна гэтыя мясціны з такім непаўторным майстэрствам апісаў Якуб Колас.

Навасёлкі, вядома, цяпер не такія, як апісаны ў «Дрыгве». Канстанцін Міхайлавіч пісаў, што «і хаты няроўныя тут, як і людзі: адна большая, другая меншая, старэйшая ці навейшая». Цяпер большасць дамоў у Навасёлках — новыя, усе крыты гонтамі. Дахі хаваюцца ў купчастай зеляніне садоў. Вельмі прывабныя тут краявіды, сюды летам прыязджаюць адпачываць аж з Ленінграда і Кіева. Паўз самую вёску «спакойна і павольна» нясе свае воды Прыпяць. Міжволі, як зачараваны, спыняешся на яе крутым беразе і здзіўляешся трапнасці коласаўскіх апісанняў. Прыпяць тут іменна такая, як расказаў пра яе шматмільённым чытачам Якуб Колас. Разгуляецца вецер, дык не вельмі асмелішся выехаць на чаўне тут на сярэдзіну Прыпяці. Плынь павольна імкне па рачной прасторы.

Васьмідзесяцігадовы Даніла, старэйшы Талашоў сын (у аповесці Максім) яшчэ дужы стары. Ён надта ж падобны да Талаша, якога мы ведаем па партрэтах, па карціне мастака Мадорава. Такая ж пасярэбраная сівізною бародка, такая ж сялянская хітрынка ў маленькіх вачах. Даніла стрыманы і негаваркі, якраз такі, якім мы ведаем па «Дрыгве» Максіма. Два сыны старога загінулі на апошняй вайне. Сын Пятро дэмабілізаваўся ў чыне падпалкоўніка і жыве ў Петрыкаве. Часцяком наведваецца ў Навасёлкі да бацькоў.

— Вельмі чулы быў чалавек Якуб Колас, — успамінае Даніла Васільевіч. — Помню, прыехаў ён аднойчы да нас, а бацька хворы ляжыць у петрыкаўскай бальніцы. Дык Колас пастараўся, каб перавезлі бацьку ў Мінск.

Дзед расказвае пра бой з белапольскімі акупантамі. А перад намі быццам нанава пераліствоюцца старонкі бессмяротнага коласаўскага твора: да чаго ж дакладна апісан гэты бой у «Дрыгве»!

Дзед Даніла прыводзіць цікавую дэталь. Аказваецца, Мартын Рыль — не выдуманы персанаж: Аляксей Рыль з суседняй вёскі Зацікі быў бліжэйшым памочнікам яго бацькі ў барацьбе з белапалякамі. Ён загінуў, як герой, калі першым з партызанамі рынуўся на кулямёты белапалякаў...

Дом малодшага сына дзеда Талаша — Змітра ў другім канцы вёскі. Гэта сюды не раз прыязджаў Якуб Колас, падоўгу размаўляў з героем свайго будучага твора, не раз любаваўся маляўнічымі краявідамі, што віднеюцца адсюль, дзе стаіць Змітраў домік. Змітро ўвесь час жыў з бацькам, і ён больш ведае аб сустрэчах дзеда Талаша з пісьменнікам.

— Вось за гэтым сталом не раз сядзеў Якуб Колас, — паказвае Змітро. — Часта запісваў. Прыязджаў ён да нас тры разы. А то бацька часцяком бываў у Мінску ў яго. Разоў са два і я з ім хадзіў на кватэру да Коласа.

Змітру шэсцьдзесят год, а яму наўрад ці і сорак дасі. Гледзячы на гэтага нізкага з вусікамі чалавека, адразу ўспамінаеш падлетка Панаса з «Дрыгвы» і яшчэ раз думаеш: як усё ж імкліва ляціць час!

Якуб Колас любіў падоўгу сядзець на беразе Прыпяці пад стагадовай вярбой з гузаватай карой. Змітро пасля змайстраваў тут невялікую лавачку. Яна і цяпер стаіць, пацямнелая ад часу, і, здаецца, захоўвае памяць пра Коласа. Адсюль віднеюцца далёкія лугі, поймы Прыпяці, парослыя густой лазой. І хваляванне ахоплівае цябе, калі зноў ідзеш той сцежкай да таўшчэзнай вярбы: дык вось адкуль пачынаўся неўміручы запеў коласаўскай «Дрыгвы»! Як вядома, выдатны твор гэты паэт напісаў у 1933 годзе. Тады ж упершыню ўрывак з аповесці быў змешчаны ў чатырнаццатым нумары газеты «Літаратура і мастацтва». Колькі разоў потым перавыдавалася «Дрыгва»! Як нястомны падарожнік, яна даўно перасягнула межы рэспублікі, стала жаданым госцем у дамах нашых сяброў, дапамагала савецкаму народу ў суровую часіну выпрабаванняў граміць ворага.

Змітро расказвае, што кожны раз, прыязджаючы ў Навасёлкі, Якуб Колас цікавіўся справамі мясцовага калгаса, не раз размаўляў з навасёлкаўцамі і чым мог дапамагаў ім.

— Не раз ён успамінаў тую рыбу, што пры першай сустрэчы падарыў яму бацька, — цёпла ўсміхаючыся, гаворыць Змітро. — Ды што казаць, слаўны быў чалавек. Такія, можа, раз у сто гадоў нараджаюцца!

Раз у сто гадоў... Цудоўна сказана! Сапраўды, такія волаты ў літаратуры, як Якуб Колас, нараджаюцца не часта. І калі ты праходзіш па тых жа мясцінах, дзе некалі ступала нага народнага песняра, зноў і зноў адчуваеш: родная зямля, непарыўная сувязь з народам жывіла творчасць паэта. У гушчы народа адшукваў ён герояў сваіх будучых твораў. І з яго бессмяротных твораў, асветленыя пісьменніцкім коласаўскім геніем, зноў вярталіся яны ў жыццё, каб дапамагчы зрабіць тое жыццё яшчэ больш светлым, шчаслівым...

Дзед Талаш памёр у жніўні 1946 года. Героя свайго твора праводзіў у апошні шлях і Якуб Колас. Ён прылятаў з Мінска ў Петрыкаў, але ў Навасёлкі ўжо не прыязджаў: паэта клікалі вялікія грамадскія справы, новыя творчыя задумы, новая праца. Дужыя рукі Коласа не маглі быць без напружанай работы. У вялікім сэрцы народнага песняра ўжо нараджаўся новы запеў.

**Міхась ДАНІЛЕНКА.**

# З КЛОПАТАМ АБ РОДНАЙ МОВЕ

Стварэнне беларускага правапісу, які існуе на сённяшні дзень, звязана ў значнай ступені з імем Я. Коласа.

Якуб Колас быў прадстаўніком цэнтральнай (пераходнай) гаворкі, і гэта мела вялікае значэнне для ўстанаўлення адзіных граматычна-правапісных норм беларускай літаратурнай мовы. Рукапісы ранніх твораў Я. Коласа, таксама як і першыя зборнікі яго, выдадзеныя ў Пецярбургу, Вільні і Мінску, з'яўляюцца яскравым сведчаннем таго, як старанна працаваў пісьменнік над словам. Важна падкрэсліць, што правапіс ранніх твораў Я. Коласа грунтуецца не толькі на мясцовым, стаўбцоўскім вымаўленні, — у пэўных выпадках назіраецца адыход ад вымаўлення роднай гаворкі і ўжыванне найбольш характэрных асаблівасцей іншых беларускіх гаворак. Так, напрыклад, гаворкі Стаўбцоўскага раёна — радзімы пісьменніка — характарызуюцца няпоўным недысімілятыўным аканнем. У ранніх жа выданнях Я. Коласа ў залежнасці ад націску маюць месца формы на «о» і «а»: сіневатаго, мужыцкаго, дамарослаго, усякаго, але: сцішна, цярпліва, кепска, нічога, сухога, такога.

Найбольш пашыраныя арфаграфічныя асаблівасці рукапісаў і першых зборнікаў Я. Коласа даюць некаторае ўяўленне і аб стане беларускай арфаграфіі ў той перыяд, калі яшчэ не была складзена і ўзаконена беларуская граматыка і правапіс.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі на Беларусі, як і ва ўсёй краіне, нябачанымі тэмпамі ідзе культурнае будаўніцтва. БССР пакрываецца густой сеткай школ, тэхнікумаў і вышэйшых навучальных устаноў. Зразумела, што беларуская граматыка, якая існавала да гэтага, не магла задавальняць узрослыя патрабаванні. Таму, пачынаючы з 1925 года, усё часцей і часцей паяўляюцца артыкулы, у якіх выказваецца незадавальненне існуючым правапісам.

У 1921 годзе ў Інстытуце беларускай культуры была створана, побач з іншымі, правапісна-тэрміналагічная камісія, у рабоце якой актыўны ўдзел прымаў Я. Колас. Супрацоўнікамі гэтай камісіі было напісана шмат розных брашур, артыкулаў, рэкамендацый і праектаў, многія з якіх у далейшым былі выкарыстаны пры складанні збору арфаграфічных правіл. Я. Колас разам з Я. Купалам прымае непасрэдны ўдзел і ў рабоце акадэмічнай канферэнцыі па пытаннях беларускага правапісу, скліканай у 1925 годзе. Гэтая канферэнцыя паказала неадкладную неабходнасць выпрацоўкі і ўсталявання сістэмы правапісу.

У 1933 годзе ўрад БССР зацвердзіў пастанову «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу». Упершыню ў гісторыі беларускі правапіс стаў абавязковым для школ і вну на тэрыторыі БССР.

Вызначаючы асаблівасці рэфармаванага правапісу, Я. Колас указваў, што ён адлюстроўвае культурны рост працоўных мас Беларусі і, з другога боку, грунтуецца на фактах агульнанароднай мовы.

Я. Колас падкрэсліваў, што рэфармаваны правапіс будзе ўдасканальвацца далей, што па меры патрэбы ў яго будуць уносіцца тыя ці іншыя папраўкі і ўдакладненні.

Перыяд з 1933 па 1940 год характарызуецца далейшым уздымам моваведчай работы на Беларусі. З друку выходзяць школьныя падручнікі па беларускай мове, так званыя «рабочыя кнігі», прызначаныя для шырокіх колаў навучэнцаў сярэдніх і спецыяльных сярэдніх навучальных устаноў.

Аўтары гэтых падручнікаў адшліфоўваюць і ўдакладняюць некаторыя найбольш складаныя арфаграфічныя правілы, прыводзяць беларускі правапіс у стройную сістэму. Абапіраючыся на даследаванні Я. Карскага, А. Шахматава, У. Вінаградава і іншых лінгвістаў, даследчыкі беларускай мовы Ц. Ломцеў, І. Гурскі, І. Міцкевіч, А. Карзон, М. Жыркевіч і іншыя пішуць граматыкі беларускай мовы для школ, педтэхнікумаў і вышэйшых навучальных устаноў.

Да 1940 года ў асноўным быў закончан новы праект змен і ўдакладненняў у беларускім правапісе, аднак ажыццявіць яго перашкодзіла Вялікая Айчынная вайна.

У пасляваенны перыяд Я. Колас узначальвае Арфаграфічную камісію Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР. Неўзабаве пад яго кіраўніцтвам быў складзен праект змен і ўдакладненняў беларускага правапісу.

Як бачым, развіццё і ўдасканальванне арфаграфічнай сістэмы беларускай мовы непарыўна звязана з дзейнасцю Я. Коласа. Бадай, не існавала ніводнага праекта, не праходзіла ніводнага пасяджэння правапісных камісій без удзелу народнага песняра. Да апошніх дзён свайго жыцця ён кіраваў усёй работай даследчыкаў беларускага правапісу, сам прымаў непасрэдны ўдзел у распрацоўцы новых праектаў. Жыццёвасць і навуковую аснову правапісу ён бачыў у тым, што «ён не адрываецца ад жывой сучаснай беларускай мовы, мовы калгаснага сялянства і рабочых мас, ад яго жывога натуральнага працэсу развіцця».

**Я. КАМАРОЎСКІ.**

## У ШКОЛЕ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

Дзейсна рыхтуюцца адзначыць 80-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа вучні і настаўнікі Нясвіжскай школы-інтэрната, якая носіць імя паэта. У школе беражліва захоўваецца выпіска з пастановы ЦК Кампартыі Беларусі і Савета Міністраў рэспублікі аб прысваенні школе неўміручага імя беларускага песняра.

Вучнямі любоўна абсталяваны стэнд, які расказвае аб жыцці і творчай дзейнасці незабыўнага Якуба Коласа. Аформлен альбом па паэме Коласа «Новая зямля». Па класах праводзяцца гутаркі і даклады аб жыцці слаўнага сына Беларусі. Пад кіраўніцтвам выкладчыцы беларускай мовы і літаратуры Н. А. Саўчанкі вучні збіраюць звесткі, якія расказваюць аб жыцці паэта ў Нясвіжы і яго вучобе ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, запісваюць успаміны людзей, што сустракаліся з песняром.

**Б. РОЗАЎ.**

## Незабыўны 1812-ы

## ЭКСПАНАТЫ РАСКАЗВАЮЦЬ

Вялікую цікавасць у наведвальнікаў Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея выклікаюць матэрыялы экспазіцыі, прысвечаныя Айчыннай вайне 1812 года.

У адной з вітрын экспануецца маніфест, выпушчаны ў 1814 годзе ў гонар заканчэння вайны. Цікавы той факт, што царскі ўрад, выпускаючы маніфест, не змог абысці маўчаннем ролю народа ў разгроме напалеонаўскага нашэсця.

«Кроткий поселянин, — чытаем у тэксце, — незнакомый дотоле со звуком оружия, оружием защищал Веру, Отечество... Жизнь казалась ему малою жертвою. Чувство рабства незнаемо сердцу россиянина. Никогда не преклонял он главы пред властью чуждою».

Асабліва каштоўнымі рэліквіямі музея з'яўляюцца дзве карціны аб Айчыннай вайне, напісаныя мастаком В. Мазуроўскім у XIX стагоддзі. На першай паказана пераправа французскіх войск цераз Нёман у момант уварвання іх у Расію. На высокім абрывістым беразе, на ўскраі лесу стаіць Напалеон у акружэнні сваіх генералаў і глядзіць у далечыню, за Нёман. Цераз раку цягнуцца ланцужкі кавалерыі. Карціна падкупляе гістарычнай праўдзівасцю ў адлюстраванні падзеі, умелым кампазіцыйным і колерным вырашэннем тэмы. Яна была знята Цэнтральнай студыяй дакументальных фільмаў, а таксама ўключана ў фотавыстаўку, выпушчаную ТАСС да 150-годдзя Айчыннай вайны.

Другая карціна адлюстроўвае падзеі заключнага этапа вайны. «Лейбказакі пры Лейпцыгу 4—7 (16—19) кастрычніка 1813 года» — такая яе назва. Уся яна прасякнута духам пераможнага наступлення рускіх войск.

Акрамя названых экспанатаў, выстаўлены для агляду наведвальнікаў шматлікія прадметы ўжытку, фатаграфіі, малюнкі і тэкставыя матэрыялы. І, зразумела, у музеі многа партрэтаў палкаводцаў і партызан, якія вызначыліся пры абароне Айчыны ў 1812-м годзе.

Афіцэрскае абмундзіраванне і зброя таго часу, а таксама аскolкі ядраў і кулі, знойдзеныя на тэрыторыі вобласці, дапаўняюць гэтую цікавую экспазіцыю.

**В. БАЛДАЕЎ,**
навуковы супрацоўнік музея.

«Лейбказакі пры Лейпцыгу 4—7(16—19) кастрычніка 1813 года».

# ЦЫМБАЛЫ ПЯЮЦЬ...



Гэта было на першым выступленні Дзяржаўнага народнага аркестра БССР у сёлетнім канцэртным сезоне. Шматлікія слухачы, сярод якіх прысутнічалі нашы ганаровыя госці — генеральны сакратар Французскай камуністычнай партыі Марыс Тарэз, член ЦК ФКП Жанета Вермерш, кіраўнікі Кампартыі і ўрада рэспублікі з вялікай увагай услухоўваліся ў звонкі голас саліруючых цымбалаў, што разносіў па ўсёй зале добра знаёмыя і вечна юныя мелодыі оперы «Кармэн». Калі малады саліст скончыў іграць, у зале грымнулі воплескі. Не вытрымалі і музыканты аркестра, якія акампаніравалі салісту, і я, стоячы за дырыжорскім пультам. Нашы апладысменты, зліўшыся з воплескамі слухачоў, з'явіліся выказваннем вялікага задавальнення і радасці з выпадку заслужанага поспеху саліста і канцэртмайстра аркестра лаўрэата VI Сусветнага фестывалю моладзі ў Маскве Веніяміна Бурковіча.

Тое, што выступленні Бурковіча заўсёды горача прымаюцца публікаю, для нас не навіна. Не толькі ў Беларусі і іншых савецкіх рэспубліках, але і ў многіх зарубежных краінах — Польшчы, Чэхаславакіі, Балгарыі, Нарвегіі, Швецыі, Бельгіі, дзе гастраліраваў малады музыкант са сваімі гучнымі цымбаламі, слухачы з захапленнем віталі аднаго з самых таленавітых прадстаўнікоў беларускага музычнага выканання. Апошняе выступленне нашага таварыша я закрануў таму, што яно вельмі дакладна характарызуе яго магчымасці і здольнасці. Наўрад ці нават самы дасведчаны слухач адчуў у той вечар, што гэта было першае публічнае выкананне Бурковічам «Фантазіі» Сарасатэ на тэмы оперы Бізэ «Кармэн» — твора, які патрабуе ад артыста вялікай вытрымкі і віртуознасці. Наўрад ці адчувалася, што толькі напярэдадні адбылася першая і практычна адзіная аркестравая рэпетыцыя, што толькі за два дні да канцэрта малады саліст разам з астатнімі аркестрантамі вярнуўся з адпачынку, пасля якога, як кажуць, «рукі не ідуць». Дадайце да гэтага натуральнае для кожнага публічнага выступлення хваляванне, павялічанае адказнасцю канцэрта, і стане ясна, што перад Бурковічам стаялі складаныя творчыя задачы.

Саліст здолеў бліскуча справіцца з імі. Яго ігра, як заўсёды, вызначалася вялікай свабодай, звычайнымі для маладога выканаўцы яркасцю і тэмпераментам, пакідала вялікае ўражанне. І таму, што гэты канцэрт гаворыць пра многае, з яго мне і хацелася пачаць расказ пра Веніяміна Бурковіча — таленавітага цымбаліста, лепшага музыканта.

**Слова пра малодшага сябра**

Сын калгасніка, што аддаў сваё жыццё на фронце Вялікай Айчыннай вайны, Веніямін да 14 гадоў рос у вёсцы Калачы Лагойскага раёна. Навучыўшыся самастойна іграць на цымбалах і гармоніку, юны артыст хутка стаў абавязковым удзельнікам усіх сельскіх свят. Слава аб ім разнеслася за межы раёна — яшчэ адно сведчанне таго, з якой цікавасцю і павагаю ставяцца ў нас простыя людзі да мастацтва, да музыкі, да сваіх «артыстаў з народа».

Знамянальная падзея, што паслужыла пачаткам усіх далейшых творчых поспехаў Веніяміна, адбылася, калі ён чатырнаццацігадовым падлеткам прыехаў у Мінск на агляд мастацкай самадзейнасці. Тут жа ён упершыню сустрэўся з народным артыстам рэспублікі Іосіфам Іосіфавічам Жыновічам, які стаў з таго часу і па сённяшні дзень настаўнікам і сябрам таленавітага юнака.

Потым паследавалі гады вучобы ў Мінскім музычным вучылішчы і Беларускай кансерваторыі. Незабыўным застанецца ў памяці Веніяміна 1957 год, які прынёс яму залатыя медалі на Усебеларускім, Усесаюзным і VI Сусветным фестывалях моладзі і студэнтаў. З таго часу перад ім адкрылася шырокае поле канцэртнай дзейнасці. І Веніямін не марнаваў часу. Цяпер з упэўненасцю можна гаварыць пра 25-гадовага цымбаліста як пра вопытнага канцэртмайстра, які дасягае пары творчай сталасці.

Упершыню мне давялося пачуць ігру Бурковіча ў год VI фестывалю, у адной з фестывальных тэлевізійных перадач. Ужо тады я звярнуў увагу на адну з самых прывабных уласцівасцей яго выканаўчага майстэрства. Веніямін заўсёды іграе з захапленнем, ярка, каларытна, хоць, як і ва ўсякага артыста, у яго бываюць выступленні на эстрадзе больш ці менш удалыя. Але яны ніколі не бываюць шэрыя, бязлікія, незмястоўныя. А палымяны тэмперамент, які заўсёды спадарожнічае ігры Бурковіча, не можа не запаліць тых, хто іграе разам з ім у аркестры, і тых, хто яго слухае. Так было і на канцэрце, пра які гаварылася вышэй, калі наш саліст прымусіў усіх аркестрантаў літаральна высякаць іскры з агністай музыкі Бізэ.

Да ліку найбольшых удач В. Бурковіча трэба аднесці выкананне ім «Кампанелы» Паганіні—Ліста. Калі слухаеш, як гучыць у яго гэта п'еса на цымбалах, здаецца, быццам яна спецыяльна напісана для гэтага інструмента, а не з'яўляецца пералажэннем. Вельмі дакладныя выразныя сродкі знайшоў выканаўца для перадачы аддаленага трапяткога гуку званочка, які адлюстраваны ў «Кампанеле». Паэтычны мастацкі вобраз раскрыты проста, захаваны яго кранаючая наіўнасць і чысціня. А тэхнічны бок ігры даведзен да такой дакладнасці, калі яго зусім не заўважаеш, хоць для цымбаліста тут ёсць нямала цяжкасцей. Лёгкасць, з якой гэтыя цяжкасці пераадольваюцца, з'яўляецца сведчаннем майстэрства артыста.

З не меншай віртуознасцю і бліскучасцю іграе Бурковіч «Інтрадукцыю і тарантэлу» Сарасатэ. Лірычная мяккасць і задушэўнасць інтрадукцыі змяняецца вогненнай тарантэлай, і выканаўца абрушвае на слухачоў літаральна каскад гукаў, заўсёды дабіваючыся найбольшай чысціні інтанацыі, вялікай рытмічнай дакладнасці. Ён быццам становіцца ўдзельнікам жыццярадаснай пляскі разам з усімі, хто прыйшоў на народнае свята.

У рэпертуар Бурковіча ўваходзяць усе, на жаль, нешматлікія арыгінальныя творы, напісаныя для цымбал беларускімі кампазітарамі. З вялікім запалам іграе ён «Беларускія танцы» І. Жыновіча, падкрэсліваючы народнасць музычнай асновы твора характэрнымі выканаўчымі прыёмамі — вострай танцавальнай рытмічнасцю, яркасцю гучання, жывой вобразнасцю.

Некаторыя творы беларускай музыкі былі створаны спецыяльна для Бурковіча, у цесным кантакце кампазітара з будучым выканаўцам. Сярод іх: «Беларускія напевы» Д. Камінскага і Канцэрт для цымбал з аркестрам Д. Смольскага. Гэты апошні твор, напісаны сучаснай мовай, з добрым пачуццём формы які мае цікавы тэматычны матэрыял, знайшоў у асобе Бурковіча выдатнага інтэрпрэтатара. Як і ў іншых відах мастацтва, музыканты-выканаўцы імкнуцца да адлюстравання сродкамі музыкі нашай рэчаіснасці. Вобразны строй Канцэрта для цымбал з аркестрам Д. Смольскага з'явіўся якраз тым сучасным матэрыялам, які выклікаў адпаведную зацікаўленасць выканаўцы, даў яму магчымасць праявіць свой талент усебакова. У выніку гэты твор стаў упрыгожаннем многіх канцэртаў нашага аркестра.

У руках таленавітага музыканта цымбалы становяцца адным з самых выразных народных інструментаў, іх магчымасці здаюцца бязмежнымі. Яны могуць быць інтымна-пяшчотнымі і, разам з тым, сонечна-яркімі, гучнагалосымі, бліскучымі. Самыя тонкія і складаныя чалавечыя пачуцці могуць перадаваць цымбалы — цудоўнае тварэнне народнага генія.

Як аркестрант, што іграе «першую скрыпку» ў нашым аркестры, Веніямін Бурковіч валодае таксама выдатнымі якасцямі. Ён раней за іншых умее ўлоўліваць сутнасць дырыжорскай задумы і памагчы ў яе хутчэйшай рэалізацыі. Вострае адчуванне рытму нашага канцэртмайстра садзейнічае наладжванню гэтага надзвычай важнага выканаўчага фактара ў цэлым калектыве. Заўсёды творчы стан і настрой «першага скрыпача» знаходзіць сваё адлюстраванне ў ігры ўсяго аркестра. Гэта накладае на яго вялікую адказнасць.

І хоць Бурковіч добры канцэртмайстар, мне хочацца яшчэ раз нагадаць яму пра тое, наколькі важна, каб вядучы музыкант быў заўсёды ў форме, каб яго творчы тонус быў заўсёды прыўзняты. А для гэтага патрэбна штодзённая, напружаная работа, якая не прызнае ніякіх кампрамісаў. Бо гэта ж ісціна: чым большы талент, тым больш патрабуе ён працы, каб з самародка ператварыцца ў каштоўны камень.

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што В. Бурковіч не заўсёды беражліва абыходзіцца з тым, чым багата надзяліла яго прырода. Часам ён толькі эксплуатуе свой талент, не вяртаючы ў гэтую скарбніцу належнай колькасці працы. Аб гэтым варта яму сур'ёзна падумаць. Варта падумаць і аб тым, што ў выніку несістэматычнай працы ў апошні час яго сольны рэпертуар расце запаволена. Шкада таксама, што ў гэтым рэпертуары пераважаюць у асноўным творы віртуозныя, сцэнічна выйгрышныя. Мала ў ім музыкі глыбокай, музыкі вялікіх пачуццяў.

А на прыкладзе выканання Бурковічам мі-мінорнага вальса Шапэна ці чароўнай п'есы французскага кампазітара Дакена «Зязюля» відаць, што малады цымбаліст з поспехам можа іграць музыку самага шырокага дыяпазону — ад старых клавесіністаў Рамо, Куперэна, Дандрыё да музыкі нашых дзён, уключаючы творы Моцарта і Гайдна, Шапэна і Грыга, Дэбюсі і Скрабіна, Пракоф'ева і Шастаковіча.

Нельга не пашкадаваць, што для такога выдатнага інструмента і не менш выдатнага артыста так мала пішуць музыкі нашы беларускія кампазітары.

Я з вялікім задавальненнем пісаў гэтыя нататкі пра свайго супрацоўніка па аркестру Веніяміна Бурковіча, бо мне падабаецца яго музыка, і я веру ў яго вялікі талент, у яго выдатнае цяперашняе і цудоўнае будучае.

**Віктар БАРСАЎ,**
дырыжор Дзяржаўнага народнага аркестра БССР.

# На зайздрасць маладым

— Зараз выступіць самадзейная артыстка Еўдакія Сарапулава. Яна выканае частушкі на мясцовыя тэмы!

Ажыўленне ў зале, воплескі. Апладзіруюць шчодра, пасля выканання нумара выклікаюць «на біс». Падабаецца!

— Сарапулава — адна з лепшых артыстаў нашага калектыву мастацкай самадзейнасці, — расказвае сакратар камсамольскага камітэта Гарадзейскага цукровага завода Георгій Сватко. — Яна — артыстка шырокага, як кажуць, профілю: і песні спявае, і выконвае дасціпныя задорныя частушкі, і чытае з эстрады байкі. Яе выступленні праходзяць з нязменным поспехам. Моладзі ёсць чаму ў яе павучыцца.

Е. Сарапулавай ужо за пяцьдзесят. Яна працуе прыбіральшчыцай інтэрната, што ў пасёлку цукровага завода. Гэтая жанчына — нязменная ўдзельніца ўсіх выступленняў самадзейных артыстаў завода. Нядаўна калектыву мастацкай самадзейнасці давялося наведаць сваіх таварышаў і калег — скідзельскіх цукравараў, выступіць у іх з канцэртам. Шлях ад Гарадзеі да Скідзеля немалы, ехалі на адкрытай машыне. Але Сарапулава нават пакрыўдзілася, калі той-сёй мякка намякнуў ёй на тое, што вось шлях няблізкі, а ў яе гады... Паехала і добра выступіла разам з усімі.

Энтузіясты — гэта тыя людзі, якія паводле трапнага выразу паэта «не старэюць у шэсцьдзесят». Галоўнаму бухгалтару завода Штэйну якраз 60 год; ён таксама не прапускае ніводнай рэпетыцыі самадзейнага струннага аркестра, памайстэрску іграе на мандаліне і выступае на вечарах самадзейнасці. І такіх людзей на заводзе нямала.

Слаўныя хлопцы і дзяўчаты працуюць на Гарадзейскім цукровым, выдатнымі артыстамі зарэкамендавалі сябе многія маладыя турбамашыністы, сатуратаршчыцы, электрыкі. Але ёсць чаму павучыцца ім і ў сваіх старэйшых таварышаў. На добрую зайздрасць і ў прыклад маладым умеюць працаваць і адпачываць яны — людзі з нестарэючымі сэрцамі.

**Б. РАМАНАЎ.**
Гарадзейскі цукровы завод, Нясвіжскі раён.

Сярод кніг

# ЦІ БЫЎ У МУХІ ПРАТАТЫП?

Не часта сустракалася нам да апошняга часу не тое што грунтоўная праца, а нават сур'ёзны артыкул, які б закранаў пытанні развіцця дзіцячай літаратуры. А тут — цэлая кніга, ды яшчэ прысвечаная разгляду, бадай, самага цікавага і багатага раздзела нашай літаратуры для дзяцей. Кніга гэтая — пра казкі: літаратурныя і народныя.

І вось мы чытаем яе. Чытаем, — і першапачатковае пачуццё зацікаўленасці адразу ж, на першых старонках, змяняецца незадаволенасцю. Літаральна ў кожным абзацы натыкаешся на безліч недаравальных ляпсусаў, псеўданавуковых высноў і проста рэдактарскіх неахайнасцей.

Аўтар кнігі, як аб гэтым сведчыць «Уступ», меў намер праліць святло на такія пытанні, як «вытокі казкі ў беларускай дзіцячай літаратуры, вызначэнне і класіфікацыя твораў гэтага жанра, спыніцца на характарыстыцы вобразаў, казачнай абраднасці, мовы і выхаваўчай ролі казак».

Раней, чым разглядаць гэтыя пытанні, ён паспрабаваў асвятліць паходжанне, класіфікацыю і гісторыю развіцця жанра казкі і ў беларускім фальклоры. Гэтаму і прысвечаны першы раздзел кнігі: «Казка — адзін з асноўных жанраў вуснай паэтычнай творчасці беларускага народа».

На жаль, адказу на гэтыя пытанні ў кнізе знайсці нельга. Тут ёсць добрасумленна перапісаныя выказванні Ул. І. Леніна, М. Горкага, В. Бялінскага, М. Чарнышэўскага, М. Дабралюбава, Ф. Буслаева, А. Афанасьева, братоў Грым, ёсць пералік выданняў Е. Раманава, А. Сержпутоўскага, Я. Карскага, П. Шэйна, але зусім мала самастойнага навуковага даследавання казкі. Разумеецца, ніхто не патрабуе ад аўтара даследчай працы таго, каб ён у кожным сказе рабіў адкрыцці, падаваў чытачу толькі новыя, арыгінальныя думкі. Але, мусіць, абагульняць пэўны фактычны матэрыял, аспрэчваць памылковасць ці сцвярджаць слушнасць тых або іншых палажэнняў ён абавязаны рабіць.

Што ж мы знаходзім у кнізе І. Разанава? Вось ён спрабуе даць навукова-абгрунтаванае вызначэнне казкі, як жанра. Працытаваўшы выказванні С. Саўчанкі, Я. Карскага, А. Сержпутоўскага, С. Шылягодскага, Д. Нагішкіна, В. Анікіна, ён робіць вывад: «Казка — гэта вусна-паэтычнае апавяданне, пры стварэнні якога народ у мэтах **своеасаблівага паказу рэчаіснасці звяртаецца да фантастычнай выдумкі»**.

Ніжэй жа аўтар працягвае: **«Здаецца,** што гэтае вызначэнне, пабудаванае на агульным для ўсіх відаў казак прынцыпе, больш поўна адлюстроўвае спецыфіку жанра казкі».

З гэтым ніяк нельга пагадзіцца. Недакладнасць такога вызначэння казкі відавочная. Хіба нельга тое самае сказаць пра быліну і легенду, напрыклад? Чым жа тады розняцца між сабой гэтыя жанры вусна-паэтычнай творчасці народа?

Аўтар чамусьці адкідвае існуючую зараз у фалькларыстыцы класіфікацыю казак і прапануе сваю. Пры гэтым ён не заўважае, што блытае розныя прынцыпы падзелу казачнага матэрыялу: па зместу (казкі аб жывёлах, напрыклад) і па іх ідэйна-сацыяльнай накіраванасці (казкі антырэлігійныя, антыпрыгонніцкія). Такі падзел І. Разанаў апраўдвае толькі бяздоказным сцвярджэннем, што ён «больш адпавядае гістарычнаму развіццю гэтага жанра народнай творчасці і ўлічвае грамадскую і сацыяльную накіраванасць».

Яшчэ менш абгрунтаванасці ў аўтарскім аналізе народных казак. Вось І. Разанаў абяцае: «Разгледзім ідэйную накіраванасць і **вобразную сістэму** беларускіх гераічных казак аб Ільі Мурамцу». Як жа выконваецца гэтае абяцанне? Аналіз ідэйнай накіраванасці казак падмяняецца простым пераказам іх зместу, а разгляд вобразнай сістэмы зводзіцца да наступнага: «Казкі «Праз Іллюшку», «Ілья» і іншыя не малююць мастацкі вобраз свайго героя ўсебакова, а раскрываюць толькі найбольш яго прыкметныя рысы». І далей: «Няма неабходнасці раскрываць змест і характарызаваць іншыя беларускія гераічныя казкі. Асноўным мастацкім прыёмам для стварэння казачных вобразаў з'яўляецца гіпербалізацыя». Ну, хіба гэта не адкрыццё?!

Шмат блытаніны і ў тых раздзелах кнігі, дзе гаворка ідзе ўжо непасрэдна пра казку ў літаратуры. Славутая парадыйная паэма «Тарас на Парнасе» становіцца ў І. Разанава паэмай-казкай. На падставе чаго? Аўтар мяркуе так: «Па сваіх мастацкіх прыёмах адлюстравання рэчаіснасці **(пабудова сюжэта, казачная абраднасць, абмалёўка некаторых вобразаў)** «Тарас на Парнасе» набліжаецца да жанра паэмы-казкі». Але і гэта яшчэ паўбяды. Аказваецца, па І. Разанаву, што «адна з асноўных ідэй паэмы — у падняцці аўтарытэту рускай літаратуры» (!)

І. Разанаў многа піша пра казкі Цёткі, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Зм. Бядулі. Але і ў гэтым раздзеле кнігі чытач не знойдзе ні цікавых назіранняў, ні слушных думак. Развагі даследчыка проста-такі перанаселены непісьменнымі выразамі, накшталт: казкі «...прышчапляюць дзецям любоў да прыроды, выхоўваюць у іх рысы патрыятызму, абуджаюць эстэтычны густ». Аналізуе казачныя творы беларускіх пісьменнікаў І. Разанаў адцягнена, не зважаючы на абставіны часу і эстэтычна-філасофскія погляды аўтараў, зыходзячы з суб'ектыўных ацэнак і ўяўленняў, што прыводзіць часамі проста да недарэчнасці.

Вось мы чытаем зноў: «Разгледзім змест і мастацкія асаблівасці гэтага твора». На гэты раз гутарка ідзе пра «Мушку-зелянушку і камарыка-насатага тварыка» М. Багдановіча. Пакуль І. Разанаў вядзе аб гэтай казцы агульную гаворку, да таго часу куды яшчэ ні ішло. Але вось даследчык пачынае «вытлумачваць» яе: «Нягледзячы на тое, што ў цэнтры твора знаходзіцца вяселле, сітуацыя, здавалася б, далёкая ад жыцця дзяцей, казка з поспехам можа быць выкарыстана для дзяцей... Нягледзячы на тое, што казка «Мушка-зелянушка і камарык-насаты тварык» з'яўляецца творам для дзяцей, але ў ёй выказваюцца некаторыя думкі, вельмі цікавыя і карысныя для дарослых. М. Багдановіч высмейвае п'янства ў час вяселля... высмейвае вяселле па разліку, з-за вялікага пасагу. Такім чынам, як і ўсякі высокамастацкі твор дзіцячай літаратуры, гэтая паэма-казка мае пэўную каштоўнасць і цікавасць і для дарослых... Трэба мець на ўвазе, што існуе вялікая розніца паміж формулай муха — вораг здароўя і муха — адзін з забаўных персанажаў народных і літаратурных казак... Вобраз мухі ў казцы, якая надзелена рысамі чалавека, але якой, зразумела, нідзе нельга ўбачыць у жыцці, **адрозніваецца ад свайго прататыпа.**

...Безумоўна, некаторыя сцэны (у прыватнасці, вяселля) маюць элементы старога быту і цяпер з'яўляюцца анахранізмамі. Трэба мець на ўвазе, што казка створана М. Багдановічам яшчэ ў 1915 г. Аднак гэта не перашкаджае выкарыстоўваць цудоўную казку М. Багдановіча для чытання дзяцей...»

Прачытаўшы такое, можна толькі роспачна ўздыхнуць.

Цяжка разабрацца і ў такіх заблытаных радках: «У багатым маёнтку жыў пан Жываглот, на якога дзень у дзень працавалі птушкі і звяры. Але цярпенню жывёл прыйшоў канец, і яны, загубіўшы пана, падаліся ў лес. **Мова казкі вобразная, бездакорная.** А. Александровіч **падпарадкоўвае функцыю мовы раскрыццю ідэйнага зместу твора.** У «Казцы пра пана Жываглота» **створана займальная казачная сітуацыя, і твор па сваёй пабудове належыць да фантастычных казак».**

На гэтай жа самай старонцы, праз адзін малюсенькі абзац, І. Разанаў раптам заяўляе: «Казка пра пана Жываглота» з'яўляецца пройдзеным этапам у нашай дзіцячай літаратуры. У той час так здаралася, што некаторыя творы вядомых майстроў слова насілі **на сябе адбітак** сацыялагізму ў літаратуры, што адмоўна **адбівалася** на пабудове сюжэта, ідэйнай накіраванасці».

Часам жа І. Разанаў зусім забываецца. Піша ён, напрыклад, пра казкі В. Віткі «Буслінае лета» і «Вавёрчына гара». І раптам, без дай прычыны, пачынае гаварыць аб перакладзе апошняй на рускую мову, які зрабіў А. Шарапаў. І як гаворыць: «Іншы раз А. Шарапаў **цярае** пачуццё меры і шарахаецца з аднаго боку ў другі...»

І. Разанаў, не задумваючыся, адносіць да жанра казкі паэму А. Астрэйкі «Прыгоды дзеда Міхеда». Пагадзіцца з гэтым нельга, бо няма ніякіх падстаў называць гэтую паэму казкай. Не выратоўвае тут, мусіць, і злучок, які ставіць аўтар кнігі: паэма-казка. Не пераконваюць і развагі даследчыка пра вобразна-мастацкую «сістэму» паэмы. Ён, напрыклад, піша: «А. Астрэйка творча выкарыстаў **мастацкія прынцыпы** паэмы А. Твардоўскага («Васіль Цёркін». — **М. К.**) ...Шэраг вобразаў, асобных эпізодаў набліжаюць «Прыгоды дзеда Міхеда» да паэмы А. Твардоўскага. У прыватнасці, згублены кісет, размова аб узнагародзе і г. д. У галіне мовы, стылістыкі абедзьве паэмы маюць многа агульнага: рыфма, пабудова верша, паэтычная фразеалогія».

Кніга «Казка ў беларускай дзіцячай літаратуры» мае адрас: «Дапаможнік для студэнтаў філалагічных факультэтаў і факультэтаў пачатковых школ». На жаль, якую б скідку ні рабіць на тое, што гэта, маўляў, першая спроба шырокай гаворкі пра беларускую літаратурную казку, што кніга мае багаты і ў некаторай ступені цікавы фактычны матэрыял, яна ўсё ж не можа быць дапаможнікам. Не можа па той простай прычыне, што яна непісьменная, блытаная, бездапаможная.

**М. КАВАЛЬ.**

І. І. Разанаў. «Казка ў беларускай дзіцячай літаратуры». Выдавецтва Міністэрства вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі БССР. Мінск, 1962.

# СЫН НЕЗАБЫЎНЫХ ДЗЁН

**ДА 60-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МІКОЛЫ НІКАНОВІЧА**

Два вагоны пасажырскага поезда поўніліся вясёлым шумам і песнямі. Было гэта 12 мая 1927 года. Звыш сотні маладых хлапцоў і дзяўчат жылі радасцю, што пабываюць у велічным горадзе Ленінградзе, наведаюць Волхаўскую гідраэлектрастанцыю, пройдуць па палубе і пабываюць у кубрыках лінкора «Парыжская камуна», шэфства над якім трымаў у той час камсамол Беларусі. Экскурсія была арганізавана газетай «Чырвоная змена». Ехалі маладыя рабочыя і сяляне, камсамольскія работнікі, вучоныя, пісьменнікі, журналісты і мастакі. З пісьменнікаў былі тут В. Каваль, М. Нікановіч, В. Маракоў. У часе гэтай экскурсіі мне давялося ўпершыню пазнаёміцца з Міколам Нікановічам, якога дагэтуль мімалётна ведаў і калі-нікалі сустракаў на літаратурных гарадскіх вечарах ды ў рэдакцыях мінскіх газет і часопісаў. Я ведаў многія творы пісьменніка, якія змяшчаліся на старонках газет «Савецкая Беларусь», «Беларуская вёска», «Чырвоная змена» і часопісаў «Малады араты», «Маладняк», «Полымя», «Аршанскі маладняк» і інш. Творы М. Нікановіча адлюстроўвалі партызанскую барацьбу з белапольскімі акупантамі, першыя гады мірнай стваральнай працы, пошукі выйсця з беззямелля і залежнасці ад кулака, імкненне шырокіх працоўных мас, а ў першую чаргу батрацтва, да вучобы і культуры, росквіт новага грамадскага жыцця. Многія замалёўкі і апавяданні вызначаліся глыбокай лірычнасцю, непасрэднасцю, народнай вобразнасцю і нагадвалі сабою вершы ў прозе.

Мікола Уладзіміравіч Нікановіч нарадзіўся ў 1902 годзе ў вёсцы Кляннік, цяпер Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці. Калі хлопчыку было ўсяго восем год, памёр яго бацька. Маці з усіх сіл выбівалася, каб пракарміць і выгадаваць траіх дзяцей. Малога Міколку Юлія Амяльянаўна за апошнія капейкі пасылала ў пачатковую школу, якую ён скончыў з выдатнымі адзнакамі. Знайшоўся чалавек, які ўзяў апякунства над здольным хлопчыкам і паслаў яго вучыцца ў Ігуменскую (цяпер г. Чэрвень) гімназію.

Хутка, пасля сканчэння гімназіі, юнак ідзе ў партызанскі атрад, а з 1921 па 1928 год настаўнічае ў роднай вёсцы. Тут ён праяўляе сябе як селькор і як актыўны камсамольскі работнік, а ў далейшым піша вершы і апавяданні. Гэта яшчэ слабаватыя творы па сваіх мастацкіх якасцях, але бадзёрыя і ўсхваляваныя, прасякнутыя верай у шчаслівую будучыню.

То не гром, не віруха бушуе,
Раскудлачыла кудры зарніца —
Гэта моладзь старое руйнуе,
Выганяючы з вёскі начніцу.
(«Вясковы камсамол» 1925 г.)

Аглядаючы ў часе экскурсіі Волхаўскую гідраэлектрастанцыю, Нікановіч перапытаў да паўсотні рабочых, пакуль не знайшоў чалавека, які бачыў Ул. І. Леніна і быў паблізу ад яго. Пісьменнік падрабязна запісаў расказ аб тым, як Ленін заклаў першы камень у падмурак гістарычнага гмаху. А ў Смольным палацы, будучы ў рабочым кабінеце Леніна, Нікановіч робіць запісы, набывае здымкі, якія адлюстроўвалі прастату і сціпласць правадыра рэвалюцыі.

Гэтыя матэрыялы пісьменнік выкарыстаў у далейшым у адным з раздзелаў свайго твора.

У ленінградскім клубе «Старая і маладая гвардыя» быў арганізаваны літаратурны вечар. Перад выступленнем за кулісамі клубнай сцэны адбылася спрэчка. Нікановіч упарта стаяў на тым, каб беларускія пісьменнікі выступалі апошнімі, а ленінградцы гасцінна патрабавалі даць мінчанам першае слова. Мяне здзівіла неймаверная ўпартасць Нікановіча. Ленінградцы выступілі першымі. М. Нікановіч меў на гэтым вечары вялікі поспех. Прачытаныя ім урывак з апавядання і верш выклікалі бурныя воплескі, якія пераходзілі нават у авацыю.

Назаўтра ў гасцініцы я спытаў Нікановіча, чаму ён дамагаўся, каб мінчане выступалі апошнімі.

— Я яшчэ ніколі не чуў, як чытаюць творы ленінградскія пісьменнікі. Трэба ж было сямуатаму павучыцца ў іх, — пажартаваў М. Нікановіч.

Здольнасць М. Нікановіча дэкламаваць, пераўвасабляцца з першых жа сустрэч заўважыў народны артыст Уладзіслаў Галубок. Ён не раз прапаноўваў яму ісці працаваць у вандроўны тэатр, пісаць п'есы. Ул. Галубок у 1929 — 1930 гг. часта наведваў рэдакцыю «Чырвоная змена», даваў нават спецыяльныя пастаноўкі для работнікаў рэдакцыі. Тут 28 сакавіка 1929 года М. Нікановіч чытаў для Ул. Галубка свой незакончаны раман «Вясёлка».

З 1934 года М. Нікановіч працуе ў г. Свярдлоўску ў газеце «Уральскі рабочы». У гэты перыяд нямала было змешчана нарысаў і падарожных нататак. З 1939 па 9 красавіка 1942 года працуе ў рэдакцыі газеты «Савецкі Дон» у Растоўскай вобласці, а пасля служыць у радах Савецкай Арміі.

1944 год быў апошнім годам жыцця і барацьбы пісьменніка, ён не вярнуўся з фронту.

Літаратурная спадчына пісьменніка невялікая, але яго творы поўны жыццярадаснасці, любві да ўсяго новага, нянавісці да гнілога, аджытага. Кнігі апавяданняў «Золак» (1926), «Радасць» (1926), «Крык працы» (1928), «Вясковы прамень» (1929), аповесці «Мяцеліца» (1930) і «У паўстанцаў» (1931), пасмяротны зборнік «Летнім днём» (1960) — гэта ўсё, што ўбачыла свет і што створана кіпучым маладым і неўгамонным пісьменнікам, адданым патрыётам нашай Радзімы.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ.**

# ЧЫТАЮЧЫ ЗБОРНІК ПАЭТА

Аляксандр Шарапаў — прадстаўнік таго пакалення, якому «было по семи», калі рушыўся стары свет і новае ўладарна ўваходзіла ў лёс краіны і жыццё людзей.

Нам было по семи,
Когда
На нашем городском бульваре
С фасада здания суда
Орла двуглавого срывали:
Когда, не усидев за партою,
Шагали мы в ряду одном
С самою большевистской
партией,
Хоть и не ведали о том.
(«Сверстнику»)

Ішлі гады. Многае з бачанага, перажытага засталося ў вершах. У зборнік А. Шарапава «Чем сердце бьется» ўвайшло ўсё лепшае, што напісана паэтам. Некаторыя з вершаў, як «Прощание друзей», «Песня о комиссаре Лемехе», «Мать», «Встреча», «О песне», ужо друкаваліся ў зборніку «Две встречи» (1935 г.).

Першы раздзел «Листья лет» тэматычна разнапланавы. Тут і старонкі мінулага, і героіка грамадзянскай вайны, і сённяшнія будні краіны.

У вершы «Родимая земля» перад намі паўстае вобраз мінулага, тыя дні, калі ўсё было «не наше». Цяжкімі былі шляхі-дарогі нашых бацькоў. І наш сучаснік — гаспадар усіх багаццяў роднай зямлі, не павінен забываць аб гэтым, каб, перадаючы эстафету сваім нашчадкам, з гордасцю сказаць: «Все это наше, сын!» Аддаўшы сваё жыццё ў імя лепшага будучага, ляжаць побач «на зеленом, крутом берегу» палескі бальшавік Клім і польскі салдат Ян.

Один шел последней тропой
из тюрьмы,
Другой его вел на расстрел.
(«Баллада о двух товарищах»)

І не ворага бачыць перад сабой польскі салдат, а свайго земляка, селяніна, такога ж хлебароба, як ён сам. Высокім гуманізмам, ідэяй інтэрнацыянальнай салідарнасці і брацтва прасякнут гэты верш.

А вось вобраз маці, якая прыйшла на вакзал сустракаць герояў-чэлюскінцаў і не сустрэла свайго сына, які загінуў сярод ільдоў («Мать»). Яна стаіць у баку ад агульнай радасці, «концами платка утирая лицо», і ёй здаецца, што зараз з вагона выйдзе ён, самы родны і блізкі.

Но радость других
Поднималась с перрона,
И белым пролетом зиял вагон.

Сябры сына «замкнули старушку в живое кольцо».

И ей показалось:
Улыбку от Бори
На лицах друзья принесли на
вокзал.

Хвалююць вершы аб Айчыннай вайне, аб тых безымянных, хто трапіў у палон, канцлагеры, быў вывезены ў няволю, і там, у нечалавечых умовах, заставаўся савецкім чалавекам, мужна сустракаў смерць.

За то, что, почитая свято
Долг, честь советского бойца,
Кулак немецкого солдата
Отвел брезгливо от лица.
(«Ты будешь жить»).

Аб пасляваенным аднаўленні Мінска, аб новых будоўлях і новых людзях чытаем мы ў раздзеле «Цветы на камне». Глыбокай думкай аб неадольнасці ўсяго жывога вызначаецца гэты верш.

Сквозь трещину он
На асфальте панели
Пробился,
Протиснулся
Еле-еле;
На тоненькой ножке
От ветерка
Покачиваются
Два листка-лепестка.
Прохожий,
Случайно не затопчи —
Пусть солнца его обласкают
лучи.
В упорстве отчаянном —
Как он хорош!

Але трэба адзначыць, што вершы гэтага раздзела значна слабей за вершы даваеннага перыяду і часу Айчыннай вайны. Адчуваецца вузкасць тэматыкі, невыразнасць, расплывчатасць вобразаў. Некаторыя з вершаў, як «Парад молодых», «Беларусь майская» — гэта сухі пераказ фактаў і падзей, а не мастацкае асваенне жыцця. Што даюць, напрыклад, чытачу такія рытарычныя радкі:

Вчера лишь гордости полны,
Голосовавшие впервые
За судьбы светлые страны,
Ее бойцы, ее сыны
Встают в колонны боевые.
(«Парад молодых»).

У свой час А. Шарапаў пісаў:

Другой мне радости не надо,
Как только каждый день и час
Гореть мечтой, с другими рядом...

Добра будзе, калі паэт будзе верным гэтаму дэвізу і яго новыя вершы памогуць людзям жыць і змагацца.

**Н. КОЛАС.**

# УНІВЕРСІТЭТ КУЛЬТУРЫ ПАЧАЎ ЗАНЯТКІ

Учора ў Палацы культуры прафсаюзаў пачаў новы навучальны год універсітэт культуры. Тут працуюць факультэты: літаратуры, мастацтва і кіно, музыкі і выяўленчага мастацтва, навукі і тэхнікі, педагогікі. На чатырох факультэтах будзе займацца каля тысячы чалавек — рабочых, служачых, хатніх гаспадынь, студэнтаў.

На факультэце літаратуры, мастацтва і кіно адбылася першая лекцыя «Савецкая літаратура — літаратура новага тыпу». Яе прачытаў выкладчык Мінскага педагагічнага інстытута кандыдат філалагічных навук А. Жакаў.

Праз некалькі дзён пачне працаваць створаны сёлета універсітэт грамадскіх прафесій.

Пры Брэсцкім абласным Доме народнай творчасці працуе выяўленчая студыя. 16 год ёю нязменна кіруе мастак Пётр Данелія. Многія з былых студыйцаў сталі прафесіянальнымі мастакамі. Цяпер у выяўленчай студыі займаецца 50 чалавек, гэта студэнты, рабочыя розных прадпрыемстваў Брэста.

Фотакарэспандэнт М. Мінковіч сфатаграфаваў занятні ў выяўленчай студыі. Злева направа: мастак-дэкаратар гаркаапгандлю В. Падлескі, П. Данелія, машыністка станцыі Брэст-Паўночны Г. Навінская і вучаніца 7-га класа 1-й школы Т. Грыгор'ева.

Мікола ЛУПСЯКОЎ

АПАВЯДАННЕ

# Пад дубамі

Якія дубы за горадам! Лес, што цягнецца паўз Дняпро ў бок Рэчыцы, пачынаецца з гэтых дубоў. Дубы высокія, магутныя, кожнаму, бадай, гадоў за паўтысячу. Аднак вясной яны апранаюцца ў зеляніну амаль разам з бярозамі, асінамі і вольхамі, бо растуць хоць і не ў нізінным, але ў вельмі травяністым месцы. Бераг тут такі, што ні пяску, ні падыходу да ракі. Зямля, зарослая травою, абрываецца адразу; унізе, метры за два, сінее Дняпро. Месца тут глыбокае, без дна.

Майскім надвячоркам я і мой напарнік Аляксей Яцук павольна прабіраліся ад чыгуначнага палатна ў бок дубоў. Мы ішлі ўзгоркамі па сыпкім пяску. У глыбокім кар'еры маўкліва стаяў на рэйках паравоз і ўвышна снавала страла экскаватара, пераносячы пясок на платформы. Напарнік мой — чалавек пажылы, сталы, сур'ёзны, былы пракурор раёна, а цяпер пенсіянер.

У абодвух у нас былі рукзакі. У мяне трохі меншы, амаль пусты, у Аляксея — набіты так, што можна было толькі дзівавацца. Ён браў з сабою ўсё: крупы, хлеб, міску, кацялок, патэльню, лыжку, маткі лёскі, запасныя блёсны, кручкі, кручоклавец, бляшанкі з рознымі нажыўкамі і нават ладны кулёк белай мукі — рабіць цеста і на яго лавіць плотку. Зверху рукзака быў яшчэ прымацаваны, падобны на ракетку, драўляны падсак. У руках, як і ў мяне, безліч вудаў і спінінг.

Апрануты Аляксей у стары рыжы касцюм, на галаве такая ж рыжая кепка, на нагах гумавыя боты.

Стаяў май. Далёка, у тым баку, адкуль мы прыйшлі, за чыгуначным палатном, за Дняпром, за горадам і вёскамі, хілілася да небасхілу сонца. Наперадзе нас, на пяску, хісталіся нашы доўгія цені. Аляксей Яцук узабраўся на ўзгорак, спыніўся і, павярнуўшыся да мяне, пачаў чакаць. Твар яго быў потны, на вуснах блукала ўсмешка.

— Якая прыгажосць! — сказаў Аляксей Яцук, і ў яго вачах на момант успыхнула незразумелая мне туга. — Чуеш, як птушкі спяваюць...

Наперадзе ў зарасніках, пад якімі дзе-нідзе паблісквала вада, спявалі салаўі. Патрывожаная некім, шчабятала сарока. Ціўкалі сініцы, гойдаючыся на галінках над вадою. Увесь лес быў ахутаны зелянінаю, пахла маладым лісцем, травою, смалякамі.

— Як гэта добра вырвацца сюды, — сказаў Аляксей.—Такая прыгажосць. Каб да ўсяго гэтага ды яшчэ і рыбы налавіць. Хоць бы на юшку. Хадзем, ці што?

— Што ж, хадзем, — сказаў я, намагаючыся гаварыць зусім так, як ён.

Мы пачалі спускацца з узгорка ў нізіну. Цяпер ужо наперадзе нас быў толькі лес. Недзе за хмызнякамі, троху ўправа, быў сухі бераг і дубы. Мы ішлі, абыходзячы невялікія лужыны.

— Слухай, Аляксей, — запытаўся я, — а чаму гэта дзікія качкі іншы раз робяць гнёзды на дрэвах?

— Такога не можа быць, — адказаў ён, ныраючы пад арэхавы куст.

— Дальбог ёсць. Сам бачыў мінулы год у паводку на лодцы ў гэтым лесе. Гляджу: у развілцы гняздо і адтуль качка зляцела. Падплыў, аж там дзесяць яек.

— Не можа такога быць, каб качка зрабіла гняздо на дрэве, — пачуўся яго глухі голас. — Метры два над вадою?

— Але.

— Дык яна таго гнязда не рабіла. Іншы раз здараецца, што дзікая качка займае старое чужое гняздо, напрыклад, вароны. Паводка, месца падабаецца, а гнязда зрабіць няма дзе. Яна і лезе ў чужое. А тады яе качаняты бабах з гнязда проста на зямлю, каторае бок ударыла, каторае толькі страху набралася, паціўкалі — ды і падаліся сваім ходам да ракі.

— Гэта ты праўду кажаш?— не веру я.

— Праўду, — сцвярджае Аляксей. — Не верыш — магу даказаць. Да мяне з гэтым пытаннем Андрэй Сёрбала лез. Усё не верыў. Напісаў аж у «Огонек». Нядаўна сустракае, ляпае па плячы. «Акадэмік ты, — кажа, — Аляксей. Такіх, як ты ды Паўлаў — двое». І паказвае паперку з рэдакцыі. А там — тое самае, што я табе гавару. «Прычым жа, кажу, тут Паўлаў. Можа — Брэм?» «Ну, няхай Брэм! — згаджаецца. — Толькі ты для мяне цяпер акадэмік!» Ну... і забраў?

— Што? — не разумею я.

— Яйкі качыныя забраў?

— А-а! — цягну я, успамінаючы гняздо ў развілку і дзесяць зусім свежых качыных яек. — Забраў, Аляксей.

— Ну, во. Усе мы такія — вучоныя. Гаворым многа, а робім ліха ведае што.

— Дык жа ўсё роўна малыя агледзелі б.

— Ну, а я не ўзяў бы, — кажа ён. — Хай бы ўжо лепш другі хто. Рукі не падняліся б...

Сонца ўсё ніжэй апускалася ззаду нас, у лесе змрачнела. Пад нагамі шуршала леташняе лісце і хлюпацела вада, у кустах чутно было, як булькоча ручаёк.

— Хутка смарчкі расці пачнуць, — сказаў Аляксей. — Грыбы такія. Самыя раннія. Але гатаваць іх трэба ўмеючы. Карычневыя такія грыбочкі і ўсе ў маршчынах...

Нізіна як быццам канчалася. Мы падымаліся ўсё вышэй і вышэй. Падлесак часта расступаўся.

Раптам трапіўся невялікі дубок.

— Цяпер хутка, — сказаў я.

Наперадзе была прагаліна, відзён быў небасхіл і далёкая вёска.

— Прыйшлі, — уздыхнуў Аляксей. — Цяпер яшчэ троху.

І вось перад намі ўжо шумяць, апранутыя ў маладую зеляніну, магутныя дубы. Мы прайшлі па зялёнаму аксамітаваму дывану, падышлі да Дняпра.

Наплывала майская ноч. Часам вада злосна булькатала на сярэдзіне рэчышча, над вымоінамі.

Мы спяшаліся цягаць ламачча. Ноч ласкава, неўпрыкмет

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# НЕ ПАСЕЯЎ—НЕ ПАЖНЕШ

У адным з пакояў Грэскага Дома культуры сядзела двое. Адзін з іх — сакратар Слуцкага райкома камсамола У. Лясун нешта горача даводзіў. Другі — дырэктар Дома культуры Б. Цішкевіч маўчаў, панурыўшы галаву.

— Разумееш, у вас занядбана культурна-масавая работа, — гаварыў У. Лясун. — Як магло такое здарыцца і менавіта цяпер, калі трэба рыхтавацца да Дэкады самадзейнага мастацтва?

Сапраўды, культурна-асветная работа ў Грэску ў заняпадзе. У пасёлку жыве і працуе многа здольнай моладзі, але калектыў мастацкай самадзейнасці маленькі, у праграме яго шмат устарэлых нумароў. Камісію па падрыхтоўцы і правядзенню дэкады ўзначальвае тут В. Шыбайла, чалавек, які не толькі мала разбіраецца ў мастацтве, але і не можа арганізаваць моладзь.

Затое ў Грэскім Доме культуры — толькі танцы аж да світання... І ніхто не дбае пра тое, каб памагчы культасветустановам навакольных вёсак Шышчыцы, Дзюдзева, Камень і інш.

Быў час, калі добрая слава ішла на Случчыне пра Казловіцкі ансамбль песні і танца, хор калгаса «Прамень камуны», вакальна-харэаграфічны калектыў вёскі Танежыцы. Цяпер работа тут заняпала.

Сельскім клубам Слуцкага раёна не хапае пастаяннай, кваліфікаванай метадычнай дапамогі, ніхто не дбае і пра абмен вопытам. Але адкуль можна чакаць тую дапамогу, калі няма тут раённага Дома культуры, няма метадычнага цэнтра, які б кіраваў работай сельскіх клубных устаноў, памагаў ім і вучыў іх. Намінальна дырэктарам раённага Дома культуры з'яўляецца Г. Гапановіч. Толькі не любіць ён, каб яго называлі кіраўніком установы, што існуе ўсяго толькі на паперы. Бо да сённяшняга дня райвыканком і гарвыканком ніяк не дагаворацца паміж сабой, каб прадаставіць памяшканне раённаму Дому культуры. Старшыня гарвыканкома В. Рубцоў катэгарычна заяўляе:

— Не было і не будзе памяшкання ў горадзе для РДК.

У мінулыя гады раённы Дом культуры знаходзіўся ў падсуседзях калгасных клубаў — і ў Мялешках, і ва Урэччы... А цяпер зноў збіраецца «ў прымакі» — на гэты раз у калгас «Рассвет»...

Няма раённага, дык, можа, гарадскі Дом культуры памагае сельскім клубам? Тым больш, што яго драматычнаму калектыву прысвоена высокае званне народнага тэатра. Праўда, адзін раз народны тэатр адважыўся выехаць у прыгарадную вёску Казловічы. І то калгаснікі заплацілі самадзейным артыстам 120 рублёў.

Для падрыхтоўкі да Дэкады беларускага самадзейнага мастацтва за сельскімі клубамі былі замацаваны педагогі Слуцкай музычнай школы. Але вельмі мала бачылі іх калгаснікі ў вёсках.

Час не чакае... Старшыня раённай камісіі па падрыхтоўцы да Дэкады мастацкай самадзейнасці А. Дубовік разгарнуў «кіпучую» дзейнасць: правяраецца работа сельскіх самадзейных калектываў, кіраўнікоў іх слухаюць на пасяджэннях, прымаюць адміністрацыйныя меры ўздзеяння.

Толькі лепш было б, каб А. Дубовік, як намеснік старшыні райвыканкома, узяўся за арганізацыю дзейснай дапамогі сельскім установам культуры.

**А. ЧЫГІР,**
**намеснік рэдактара міжраённай газеты «Шлях Ільіча».**

